Цана нумэру 50 кап.

# БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА

ВЫХОДЗІЦЬ ТРОЙЧЫ У ТЫДЗЕНЬ.

Рэдакцыя і Адміністрацыя — Вострa-Брамская, № 9 — адчынена што дня, апрача сьвята, 8—12 і 3—5.

АБВЕСТКІ: 1 радок перад тэкстам 4 рублі. 1 радок за тэкстам 2 рублі. З безработных за усю абвестку 2 рублі.

Год I. Серада, 18 чэрвеня 1919 г. № 23

## Палітычныя перспэктывы і Беларусь.

Як толькі скончылася вялікая вайна народаў, здавалася, што зморанае чалавецтва адразу-ж перастане сварыцца і лязгаць аружжам і займецца сваімі хатнімі мірнымі справамі. Аднак мы бачым, што замест вялікай эўрапейскай вайны, пачаліся іншыя прыватныя войны паміж аддзельнымі народамі, а ў Расеі вот ўжо другі год вядзецца унутраная вайна, а таксама і з суседзямі. Яшчэ ня відаць, калі кончацца гэтыя войны і калі наступіць агульнае замірэньне.

Немцы і аўстрыйцы ўсё адцягваюць падпісаньне міра. Яны ня хочуць згадзіцца з цяжкімі варункамі, якія паставілі ім дзяржавы Антанты, варункамі, каторыя трэба лічыць справядлівымі, калі прыйняць на ўвагу тыя вялізарныя шкоды, каторыя немцы прычынілі а-маль ўсяму сьвету.

Чэхі ваююць з венграмі, палякі—з украінцамі, немцамі і бальшавікамі. Румыны—з венграмі і бальшавікамі. У Расеі проціў бальшавікоў ваююць: Колчак, Денікін, Грыгор'еў, Юдэніч і інш., а таксама—фіны, эстонцы, латышы, літоўцы, палякі, украінцы і т. д.

Мірная канфэрэнцыя разглядае розныя справы, глаўным чынам варункі міра з немцамі і пагранічныя споры немцаў з іх суседзямі. Да Расеі з яе справамі дзяржавы Антанты яшчэ не саўсім падайшлі. Праўда, ў апошнія дні «рада чатырох» прыйняла вельмі важныя пастановы аб адносінах да Колчака. На Колчака Антанта глядзіць, як на чалавека, каторы павінен зрабіць ў Расеі парадак і сазваць Устаноўчы Усерасейскі Сойм. Робяцца таксама крокі, каб дайсьці да паразуменьня паміж Колчаком і урадамі розных народаў, уваходзіўшых у склад Расейскай імпэрыі.

У пытаньнях аб адносінах паміж Колчаком і асобнымі народамі важна тое, ці прызнае Колчак незалежнасьць гэтых народаў, і другое — ці згодзіцца Колчак прызнаць гэтыя новыя гаспадарствы ў граніцах, якія намечаны імі.

Колчак прызнае незалежнасьць Польшчы, а што датыча другіх гаспадарстваў як Літва, Эстонія, Латвія, Грузія і інш. то Колчак адмаўляецца прызнаць іх незалежнасьць сам, кажучы, што ён не мае права гэтага рабіць без Устаноучага Сойма.

Такім чынам і для Колчака і для Антанты пакуль што ёсьць толькі Расея і Польшча і яны ужо цяпер могуць лічыць сябе дзяржавамі, якія прызнаюцца Антантай. Калі так і будзе, і калі Антанта зможа давесьці да канца сваё пажаданьне аб адбудове Расеі і Польшчы, дык малым народам прыйдецца лічыцца з гэтым.

Няма чаго і гаварыць, што і Расея і Польшча будуць старацца адбудаваць свае дзяржавы ў граніцах, найбольш для сябе выгодных з эканамічнага і палітычнага боку. Расея захоча дабыць сабе ўсе землі, што ад яе аддзяліліся, каб прабіцца да Балтыцкага і Чорнага мора. Эстонія, Латвія, Літва, Беларусь, Украіна і Каўказ змушаны будуць ўвайсьці ў тыя ці іншыя адносіны да Расеі, калі Колчак разаб'е бальшавікоў. З другога боку — ёсьць ведама, што і Польшча энэргічна стане дамагацца, каб далучыць да сябе усе суседзяў, перш за ўсяго—літоўцаў і беларусаў, а потым можа — Латышоў і Эстонцаў і навет Украінцаў.

Ідэя фэдэрацыі Польшчы з Літвой і Беларусьсю вельмі популярная ў Польшчы. Можна сказаць, што ўсе палякі хочуць злучэньня Польшчы з Літвою і Беларусьсю. Палякі добра разумеюць, што Польшча сама па сабе будзе слабаю і проціў Расеі і проціў немцаў і змушана будзе шукаць падтрыманьня проціў сваіх суседзяў дзе-нібудзь на старане, што зьвязвае ёй рукі.

Вось дзеля таго мы і бачым, што Польшча так жадае саюза з Літвою і Беларусьсю.

Літва і Беларусь цяпер становяцца ў палажэньне, калі і Расея і Польшча будуць дабівацца саюза з імі. Літва і Беларусь хочуць быць незалежнымі.

Але-ж ведама, што калі ім стане ясна, што незалежнасьці ім пакуль што не дабіцца, то яны змушаны будуць стаць ці на бок Польшчы, ці на бок Расеі. У пытаньні, на чый бок стаць, многа будзе значыць, якія варункі будуць запрапанованы літоўцам і беларусам з аднаго і другого боку.

Колчак яшчэ далёка. Справы яго, як чуваць з газэт, троху сапсаваліся. Бальшавікі не толькі ня пушчаюць Колчака далей, але атагналі яго досьць далёка назад.

Для Польшчы, калі яна ня хоча адкінуць ад сябе беларусаў і літоўцаў, падайходзіць пара пачаць шчырыя перагаворы аб утварэньні з імі згоды па пытаньню аб адносінах паміж сабою.

Да апошняй пары Польшча ці саўсім не вяла перагавораў з Літвой і Беларусьсю, калі абы-што рабіла такое, што чапала правы беларусаў і літоўцаў, ці не згажалася з беларусамі і літоўцамі на іх прапазіцыі.

Мы лічым, што Польшча, каторую яшчэ ня можна лічыць магутнаю, робіць страшэнныя памылкі у сваёй палітыцы. У Польшчы,—толькі што яна паўстала,—а ўжо многа ворагаў. Немцы, літоўцы, украінцы, чэхі, беларусы.

Ці можа Польшча пахваліцца, што з імі ў яе добрыя адносіны?

Струны польскай палітыкі могуць разам парвацца... і мы ня будзем шкадаваць тады, што палякі прайгралі, бо на палітыку, якую мы бачым цяпер ад Польшчы ў адносінах да нас і літоўцаў, палітыку навязваньня і палітыку словаў бяз дзела, мы ніколі ня згодзімся.

Мы такія самыя людзі, як і палякі, і мы вымагаем, каб з намі лічыліся і гаварылі, як роўны з роўным, шануючы нашыя правы.

Гэта ёсьць—conditio sine qua non...

Лук—аш.

## ПАСЯДЖЭНЬНЕ

**Беларускага Нацыянальнага Комітэту м. Вільні**

**адбудзецца 18-га чэрвеня,**

у сераду, а 5-й гадзіне у-вечары, у Канцэлярыі Рады

**(Вострa-Брамская 9).**

# Беларускі зьезд 9--10 чэрвеня.*)

Ад імені беларусаў-каталікоў выступіў з прамовай да зьезду гр. Фалькевіч, каторы зьвярнуўся да зьезда з прапазыцыяй, каб была вынесена рэзолюцыя: 1) аб рэстаўрацыі у Вільні катэдры беларускага біскупа, 2) аб навучаньні у Віленскай і іншых краёвых рымска-каталіцкіх духоўных сэмінарыях перш — у нацыянальна-беларускім духу, а потым і ў беларускай мове, 3) каб ксяндзы на Беларусі былі-б беларусы—бо гэтага хоча ужо селянства, і каб навучаньне у касьцелі было па-беларуску.

Па просьбе грамадзян беларусаў — праваслаўных выступіў гр. Чэрэпук, які абвесьціў, што і праваслаўныя беларусы таксама жадаюць, каб у Вільні як найхутчэй архірэй быў — беларус і каб у царкве пропаведзі казаліся толькі па-беларуску, а з духоўных сэмінарыяў выходзілі сьвяшчэньнікі-беларусы нацыянальна свядомыя.

Была прынята аднагалосна такая рэзолюцыя:

«Беларускі Зьезд Віленшчыны і Горадзеншчыны даручае сваей Радзе Зьезду, каб яна, выяўляючы жаданьні беларусаў-каталікоў і беларусаў-праваслаўных, увайшла у найхутчэйшыя перагаворы з рымска-каталіцкаю і праваслаўнай духоўнай уладаю, каб у Вільні быў назначаны р.-к. беларускі біскуп, каб у р.-к. і праваслаўных духоўных сэмінарыях Беларусі навучэньне вялося у нацыянальным беларускім духу, а потым і каб у касьцёлах і царквах з беларускімі парахвіянамі выкладаліся казаньні у нацыянальнай мове і каб ксяндзы-палянізатары і свяшчэньнікі-русіфікатары былі заменены ксяндзамі і свяшчэньнікамі беларусамі, а таксама яшчэ, каб і для праваслаўных беларусаў быў архірэй-беларус“.

З дакладам аб помачы земляробству выступіў гр. Сегень, паміж іншым прапанаваўшы паўсюды закладываць земляробныя коопэратывы, як найлепшы спосаб самапомачы. Была прынята такая рэзолюцыя:

«Беларускі Зьезд сьцьверджае, што земляробства нашае зусім зруйнована; толькі энэргічная праца выбранага намі правамоцнага органа палепшыць палажэньне па абсемяненьню палеткаў і двароў, абзавядзеньню жывёлаю і коньмі і па адбудове зруйнованых вёсак і гаспадарак“.

Затым было прыступлена да выбару Цэнтральнай Рады Горадзеншчыны і Віленшчыны.

Пастаноўлена выбраць Раду Горадзеншчыны і Віленшчыны з 15 асоб, пры гэтым 5 з іх выбраць ў прэзыдыум Рады.

Пасьля доўгіх спрэчах паміж правай і левай старанамі зьезду у пытаньні, якім спосабам і каго выбіраць, зьезд выбраў ў Прэзыдыум Рады:

старшынёй—Душэўскага К.,

таварышамі—Кахановіча М. і Станкевіча І.

Сэкрэтарамі Мурашку і Тарашкевіча.

Сябрамі Рады:

1. Чэрэпука Я.,
2. Грыба Т.,
3. Алексюка П.,
4. св. Кушнёва,
5. кс. Пятроўскага,
6. Фалькевіча,
7. Маркевіча,
8. Фохта,
9. Ярушэвіча і
10. Сенкевіча.

Кандыдатамі:

1. Мядзіолку, 2. Кнігу, 3. Курпіка, 4. Антонава і 5. Бекеша.

Зьезд зачыніўся ў 5 гадзін раніцы 11 чэрвеня.

На зьезьдзе было больш, як 125 правамочных делегатаў.

*) Гл. № 21 і 22.

# АПОШНІЯ НАВІНЫ.

## Весткі Польскага Генеральнага Штабу.

**Фронт Галіцыйска-Валынскі.** Над Стырам пад Рафалоўкай артылерыйскі агонь з абодвых бакоў.

**Фронт Палескі.** Аддзелы 3-га палка польскіх вуланаў па заўзятай бойцы занялі Лагішын, дзе узялі 100 салдатаў і 2 камандіраў, здабылі 6 кулямётаў і шмат амуніціі.

**Фронт Літоўска-Белар.** Без перамены.

*15 чэрвеня.*

**Фронт Галіцыйска-Валынскі.** У Галіцыі на паўдзён-заход ад Тарнаполя ідуць бойкі з украінскімі войскамі генер. Паўленкі.

**Фронт Палескі.** Варожая артылерыя аднавіла свае дзеяньне на Ясёлдзе.

**Фронт Літоўска-Беларускі.** Напад ворога на лініі Сноўхваева — адкінуты на цэлым фронце.

### Ультыматум Фоша.

Фош, як даносяць (Havas) паставіў немцам ультыматум аб хуткім скасаваньню прыказу, выданага ў Бэрліне, аб забароне польскім войскам пераходзіць Нямеччыну.

### Немцы задзержываюць войска Галлера.

Праз цэлы тыдзень войскі Галлера ня мелі ніякай перашкоды ў транспарце сваіх аддзелаў у Польшчу, а надоічы ў Лешне, нямецкая улада не перапускала Галлераўскіх войскаў. Мясцовая нямецкая улада ссылаецца на распараджэньне з Бэрліна. Палякі павядомілі аб гэтым Парыж.

### Неўдача Калчака.

Як даносіць Ческа - Славацкае бюро

# Панская сучка*)

IV.

Пан Міхал уцяшаўся, што бяда блізка што мінулася. Адылі уцяшаўся з асьцярожнасьцю, каб не давялося расчараваца. «Накарміце-ж яе самую так, каб аж піць папрасіла»? Чорт яго ведае, што гэта значыць? А трэба уцяміць і ў дасканальнасьці споўніць: доля войта зусім ня ваблівая. Рымарчук—хлоп; уськінуты панскаю ласкаю на высакосьці вайтоўства сьмерд; яму лягчэй зрабіцца ізноў тым самым, чым быў калі-сьці. Але пан Міхал—шляхціц, хоць і занепалы; яму ня зьнесьці сорому. Трэба старацца.

— Скажы ты мне, Яська, як накарміць чалавека, каб піць папрасіў, а? — спытаўся ён, сустрэўшы псара.

Той не зразумеў, прыйняў за жарты і стараўся патрапіць пад панскі гумар, адказаў:

— Накарміць трэба ў-досыцьця, ласкавы пане.

— Накарміць? Ды мне па добрым абедзе курыць толькі хочацца, разумееш?

— А мне — піць. Анэгдай пасьля смажонага селядца я паў ікухля квасу выдзьмухаў у кухара, ласкавы пане.

— Ага, так, так, так. Па селядцу, значыцца?

— Пасьля лазьні надта піць карціць, ласкавы пане.

— Ага, пасьля лазьні яшчэ, Ясько. Добра, добра, — ты разумны хлоп, псар Ясько.

— Сабачнікі усе мудрагелі—ашчэ, рыўся Яська.

— Ну, ідзі сабе да сваіх сабак, ато ізноў абы-што забудзешся.

— Дармоўшчына была, паночку...

— Ну, ну, пагамані ў мяне!

Пан Міхал пасьля размовы з псаром Яськаю прасьвятлеў. Хоць не выпадае так доўга гутарыць яму са сьмердам, нядаўна абсечаным, ды нічога: гэны сьмерд, чорт яму сябра, нагадаў харошую думку. Княжэўская воля будзе споўнена ў дасканальнасьці.

У садзе за старым флігяльком аконама ліпела над заплытым стаўком старэнькая акінутая лазенка. Аконам загадаў, каб як найбарджэй зрабіць у ёй парадак і пачаць грэць. У лазенку умясьцілі Тацяну Турботную і замкнулі на замок там, дзе парацца. Ключ паклаў сабе у кішаню пан Міхал.

— Скрозь вакенца даваць па пяць селядцоў у-раньні і у-вечары, а болі нічога не даваць. Няхай есьць у-досыцьця, каб аж піцюхны пабажала. Цяпло у печы ня спускаць дзень і ноч, ды болі пары паддаваць, ато азызьне галубка, — казаў аконам гайдуку,—паліць што жарчэй, селядцы выбіраць што пасальней.

І катаваньне пачалося.

Тры дні, тры ночы стагнала, хрыпела і драпала сьцены зьнямоглая ад смагі хворая баба.

Ужо й Будзьку узьвярнулі. Ужо ён, рады, падцьвярдзіў, пусьціўшы ў ход усё свае ветэрынарскае веданьне, што, дапраўды, шчанятаў баба абкарміла ма-

*) Гл. №№ 20, 21 і 22.

